Тэлепраграма з 28 жніўня па 3 верасня

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 67 (4216)**

25 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Сёння і заўтра Вас чакаюць…

З-за летняга адпачынку альбо з-за часовага перасялення на дачу Вы на месяц-другі спынілі падпіску на “Народную Волю”. Цяпер у Вас ёсць магчымасць з 1 верасня зноў атрымліваць любімую газету. Толькі не спазніцеся з аднаўленнем падпіскі. Сёння і заўтра гэта можна яшчэ зрабіць. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

ГІСТАРЫЧНАЯ ПАДЗЕЯ



# 25 жніўня 1991 года Беларусь абвясціла НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

26 гадоў таму Вярхоўны Савет надаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статус канстытуцыйнага закона, прыняў шэраг іншых дакументаў, якія замацоўвалі незалежнасць краіны.

У якасці дзяржаўных сімвалаў былі прыняты гістарычны герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг.

Сесія была склікана па патрабаванні дэпутатаў Апазіцыі БНФ, да якіх далучыліся іншыя дэмакратычныя парламентарыі (усяго за скліканне сесіі выказаліся 84 дэпутаты), і працавала 24–25 жніўня. Прэзідыум Вярхоўнага Савета прапанаваў парадак дня з двух пунктаў – «Аб бягучым моманце» і «Аб саюзным дагаворы», апазіцыйныя дэпутаты ўнеслі пакет прапаноў, сярод якіх галоўнымі былі аб абвяшчэнні Незалежнасці і аб адказнасці кіраўніцтва ВС за бяздзеянне ў дні путчу, аб забароне КПБ-КПСС, аб стварэнні ўласнага войска.



Пачатак надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 24 жніўня 1991 года. З бел-чырвона-белым сцягам Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Вольга Галубовіч

RFE/RL




Людзі на плошчы, 25 жніўня 1991 года.

Courtesy Photo

Перад пачаткам сесіі група дэпутатаў дамаглася прадастаўлення прамога тэлеэфіру і звярнулася да жыхароў Мінска з заклікам прыходзіць на плошчу перад Домам урада. На плошчы сабраліся тысячы людзей.

У выніку камуністычная большасць была вымушана пагадзіцца з большасцю прапаноў дэпутатаў, якія з’яўляліся сябрамі Беларускага Народнага Фронту. Старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей падаў у адстаўку, дзейнасць КПБ-КПСС была прыпынена. Нарэшце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР быў нададзены статус канстытуцыйнага закона – Беларусь юрыдычна стала незалежнай дзяржавай.

*«Мы з вялікім шанаваннем павінны памятаць і адзначаць усе падзеі, звязаныя са змаганнем і сцвярджэннем нашай дзяржаўнай незалежнасці,* – пісаў у адным са сваіх артыкулаў тагачасны старшыня БНФ Зянон Пазьняк. – *Гэта найперш 25 Сакавіка 1918 года, свята, якое мы адзначаем як Дзень Волі і аб’яўленне незалежнасці БНР. Гэта 27 ліпеня 1990 года – дзень аб’яўлення Дэкларацыі аб незалежнасці БССР, якая была прынята Вярхоўным Саветам у выніку ўдалага выкарыстання гарбачоўскай палітыкі і дзякуючы найперш рацыянальнай і ахвярнай барацьбе дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Гэта нарэшце – вянец усіх падзей – дасягненне рэальнай незалежнасці Беларусі 25 жніўня 1991 года.*

ТЫМ ЧАСАМ

## Час абмеркаваць лёс краіны!

*З нагоды 26-й гадавіны Незалежнасці Рэспублікі Беларусь заўтра ў Мінску адбудзецца асамблея патрыятычных сіл краіны.*

Арганізатарам канферэнцыі выступае Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ.

*“Тэрміновая ініцыятыва выклікана пагрозай Незалежнасці Беларусі ў сувязі з расійскімі вайсковымі вучэннямі «Захад-2017» на тэрыторыі нашай краіны і неабходнасцю абмеркаваць лёс і будучыню Радзімы*, – паведамляе аргкамітэт мерапрыемства. – *Запрашаем узяць удзел прадстаўнікоў усіх беларускіх патрыятычных грамадскіх, палітычных, культурных арганізацый і ўсіх грамадзян, якім шчыміць сэрца за Бацькаўшчыну-Беларусь”.*

Канферэнцыя адбудзецца ў зале Міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Іаганеса Раў па адрасе: Мінск, вуліца газеты “Праўда”, 11. Пачатак у 16.00.

ЦИТАТНИК

*Вчера Александр Лукашенко выступил на Республиканском педагогическом совете. Вот что он, в частности, сказал…*

### О загруженности учителей

«В школы должны поступать документы, касающиеся только образования и воспитания. Давайте окончательно поставим точку в этом вопросе. Тот хлам, который раньше шел в школу, – разные отписки, пол, потолок, мы что-то там считали, придумывали и отписывались… это никому не надо. Дело даже не в излишней нагрузке для учителя. Дело в унижении самого учителя, которому приходится делать ненужные вещи».

### О «шестидневке»

«Шестой день в неделе – это не выходной. Это, если хотите, скажу как учитель, чтобы ученика наклонить к жизни, сделать его здоровым… Нынешний молодой человек, подросток не понимает, что такое электрическая розетка, лампочка. Девочка-подросток не умеет пуговицу пришить… Нам скоро некого в армию будет призывать по состоянию здоровья».

### О вузах

«Следует сократить количество специальностей, которые не являются профильными для того или иного вуза. Сегодня у нас практически каждый вуз выпускает сотни специалистов самого широкого профиля – юристов, экономистов, политологов… А потом они безуспешно ищут работу по специальности и винят в своей невостребованности государство».

### О безопасности в интернете

«Нам надо обратить на это внимание. И правоохранительные органы, и не только. Мы сейчас готовим ряд законопроектов, направленных именно на это. Не в том, чтобы где-то закрыть интернет, какие-то даже сайты и ресурсы «пятой колонны». Нет, пусть пишут. Люди разберутся. Но вот этот деструктив – суициды и прочее... Россияне уже приняли ряд решений. Спохватились, но очень поздно. Вот нам бы этот момент не упустить. Надо очень жестко в этом плане поступить».

### О языковой политике

«Русский язык – это наш родной язык. Ну, может быть, чуть менее родной, чем белорусский. А вообще я их ставлю на равные уровни и считаю, что от этого наследства нам ни в коем случае отказываться нельзя. Давайте будем богатыми людьми. Пусть у нас будет два родных языка: русский и белорусский. Придет время, придут новые люди, новые поколения. Может, жизнь изменится и они определятся».

ВІЗІТ

## Беларусь наведае віцэ-маршал сейма Рэспублікі Польшча Рышард Цярлецкі

Візіт запланаваны на канец жніўня – пачатак верасня.

Варта заўважыць, што гэта будзе не першы візіт прафесара, палітыка ад польскай партыі “Права і Справядлівасць” Рышарда Цярлецкага ў Беларусь. У мінулым годзе ў Мінску ён сустракаўся не толькі з чыноўнікамі, але і з прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадскасці.

У мінулым годзе Рышард Цярлецкі ўсклаў кветкі ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам – месцы сталінскіх катаванняў нявінных людзей, у тым ліку палякаў.

*“Гэта святое месца для палякаў і беларусаў, якое трэба наведваць як святыню”*, – адзначыў Цярлецкі ў Курапатах. Ён выказаў таксама надзею на станоўчыя зрухі ў пытаннях ушанавання памяці пахаваных там палякаў і праліцця святла на ўсе пытанні, звязаныя з гэтым месцам.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЧУЛІ?

## Адмаўляюць..

Актывістам прафсаюза РЭП мясцовыя ўлады масава не даюць дазвол на правядзенне пікетаў у падтрымку абвінавачаных у нявыплаце падаткаў старшыні прафсаюза **Генадзя Фядыніча** і бухгалтара **Ігара Комліка**.

Рэгіянальныя актывісты падалі заяўкі на правядзенне 15 пікетаў па ўсёй краіне, паведаміў БелаПАН прэс-сакратар прафсаюза РЭП **Мікалай Герасіменка**. На гэты момант з мясцовых органаў улады прыйшлі адказы прыкладна на палову заявак, ва ўсіх з іх змяшчаюцца адмовы ў правядзенні акцый. *«Нам адмовілі ў Магілёве, Мінску, Брэсце, Бабруйску, Калінкавічах. Пакуль рэгіянальнымі актывістамі прынятае рашэнне не падаваць заяўкі нанова»*, – удакладніў Герасіменка.

Паводле яго слоў, у якасці прычыны забароны на правядзенне пікетаў часцей за ўсё фігуруе адсутнасць заключаных дамоў з міліцыяй, “хуткай дапамогай” і камунальнікамі. *«Пры гэтым практычна не даюць часу, каб фармальна ўсё гэта зрабіць. Напрыклад, 18 жніўня прыходзіць адказ, у якім прапануюць да гэтай жа даты заключыць усе дамовы. Фактычна пры ўсім жаданні зрабіць гэта немагчыма»*, – адзначыў прэс-сакратар.

ПАД ГРАДУСАМ

## Калі палепшыцца надвор’е?

У пятніцу ***25 жніўня*** пераменная воблачнасць. Ноччу па ўсходзе дажджы. Днём у асобных раёнах краіны кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература ноччу +6…+12°C, днём +17…+23°C, па поўдні да +25°C.

У суботу ***26 жніўня*** ноччу ў асобных раёнах, днём пераважна па паўночнай палове краіны кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай слабы туман. Тэмпература ноччу +9…+14°C, днём +17…+24°C, па поўдні да +26°C.

У нядзелю ***27 жніўня*** ў асобных раёнах краіны кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Ноччу і раніцай слабы туман. Тэмпература паветра ноччу +7…+14°C, днём +17…+24°C, па поўдні +25…+28°C.

КІРМАШ

# На Камароўцы вочы разбягаюцца...





### Кветачкі і ягадкі

Канец жніўня – лепшы час для таго, каб рабіць нарыхтоўкі на доўгую зіму. На Камароўскім рынку, што ў цэнтры Мінска, асабліва шмат ягад. Самыя дэмакратычныя кошты на маліны і брусніцы – 5–6 рублёў за кіло. А вось буякі і ажыны прадаюцца, як сапраўдныя далікатэсы – ад 9 і да 12 рублёў за кілаграм. Гандляры запэўніваюць, што ніжэй кошты ўжо не ўпадуць, бо лета было халоднае і нават традыцыйныя ягадныя рэгіёны – Брэстчына і Гомельшчына – не могуць пахваліцца багатым ураджаем.

Пакуль ягады не адышлі цалкам, можна паласавацца апошнімі брэсцкімі клубніцамі. Іх прадаюць па 10 рублёў за кілаграм. Самыя дарагія ягады на рынку – азербайджанскі кізіл. Нязвыклы для Беларусі пачастунак цягне на 25 рублёў за кіло. Даражэй толькі селекцыйны цуд – “ежэмаліна”. Незвычайныя буйныя ягады выглядаюць вельмі прывабна: зіхоткія, гладкія, цвёрдзенькія. За малюсенькі стаканчык не саромеюцца прасіць 6 рублёў. Пакаштаваць не дадуць. І дзякуй Богу, бо смак у “ежэмаліны”, як казаў Аркадзь Райкін, спецыфічны.

### Турыстычнае месца

Тым, каго ягады не цікавяць, на Камароўцы таксама ёсць за што пагандлявацца. Памідоры самых неверагодных колераў, памераў і формаў чакаюць сваіх пакупнікоў. Самыя звычайныя чырвоныя таматы сярэдняга памеру прадаюцца па рублю, а вось кошт на экзатычныя гатункі можа дасягаць 10 рублёў. Фермеры з Піншчыны сёлета спакушаюць мінчан белымі, аранжавымі, мармуровымі і чорнымі памідорамі. Від настолькі шыкоўны, што многія маладыя людзі не вытрымліваюць і просяць сфатаграфаваць іх на фоне пладовага багацця.

*“Да нас шмат замежнікаў падыходзяць,* – прызнаўся фермер, які распрадае памідорны ўраджай. – *Кажуць, Камароўка стала турыстычным месцам. З фотаапаратамі шмат людзей, шкада, што больш фатаграфуюць, чым набываюць”.*

Спецыяльна для тых, хто не можа стрымаць сваіх пачуццяў, на кожнай таматнай горцы побач з цэннікам надпісы “Рукамі не кранаць” і “Памацаў – купі”.

### Экзатычныя тавары: інжыр, персік, кукуруза

Бульба разыходзіцца на Камароўцы не горш за вінаград ці персікі. Кошты на “другі хлеб” пачынаюцца ад 40 капеек, а шыкоўныя пурпурныя бульбіны “Волат” абыдуцца ў 4 рублі за кіло. Куды таннейшы беларускі грунтавы перац – 1 рубель 70 капеек. Самы просты (бо непатрабавальна расце ў любое надвор’е і на любой зямлі) від агародніны кабачок прадаюць за 40 капеек за кіло. Нават цыбуля каштуе даражэй – ад 70 капеек за кілаграм.

Некаторая садавіна і гародніна на Камароўцы месцамі даражэй, чым у сеткавых крамах. Персікі каштуюць 2,5–5 рублёў, кавуны ў межах 1,10–1,50, яблыкі 1,5–3 рублі. За адну інжырыну просяць 5 рублёў. Цікава, што ў топ самых дарагіх прадуктаў сезоннага рынку на Камароўцы трапіла беларуская кукуруза. Самы танны варыянт, які атрымалася знайсці, каштаваў 2,5 рубля за кіло, а самы дарагі – 4 рублі. Нават на грыбы, якія ў гэтым сезоне ў дэфіцыце, больш зразумелыя кошты. Лісічкі прадаюцца па 7 рублёў за кіло – роўна ў два разы даражэй, чым кошт, па якім грыбы скупляюць у насельніцтва. Гандлявацца не атрымліваецца, самым настойлівым пакупнікам раяць пашукаць таннейшыя грыбы ў лесе.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**
**Фота Сяргея ГРАБОЎСКАГА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Совершит ли правительство чудо?

Любит у нас глава государства вбрасывать в информационное поле впечатляющие цифры. Например, предложено снизить себестоимость продукции сразу на 25%, довести заработную плату до 1000, а в следующем году – до 1500 рублей.

Некоторые серьезные экономисты на элементарных расчетах показывают, что намечаемые рубежи нереальны.

К примеру, средняя зарплата в 2016 году составила всего 363 единицы в долларовом эквиваленте. Чтобы она достигла памятного с 2010 года 500-долларового рубежа, ей нужно прыгнуть в этом году на 137 долларов, или на 38%. Казалось бы, как это возможно сделать, если фонд зарплаты – составная часть ВВП – по плану должен вырасти в 2017 году всего лишь на 1,7%? Значит, необходимо существенно увеличить в ВВП долю фонда потребления за счет роста премий, дивидендов, выплачиваемых из прибыли, ничего не оставив на развитие.

Вот простые расчеты. Чтобы средняя зарплата в 2018 году вышла на показатель 1500 рублей, или примерно 715 долларов с учетом запланированного курса рубля, при сохранении все-таки доли фонда зарплаты в ВВП, этот фонд должен быть 35,8 млрд долларов, то есть почти в 2 раза превышать его объем в 2016 году. А чтобы выдержать привычные пропорции между ВВП и фондом зарплаты, ВВП в 2018 году должен составить 94,2 млрд долларов. Динамика ВВП первого полугодия говорит о том, что хорошо, если в 2017 году он будет 50 млрд долларов. Следовательно, для достижения зарплаты в 1500 рублей в 2018 году ВВП должен вырасти на 44,2 млрд долларов, или на 89%! Казалось бы, нереально, какие еще нужны обоснования? Но ведь в текущем году зарплата-таки прыгнула уже до 436–440 долларов в эквиваленте. И я не сомневаюсь, что Белстат зафиксирует в конце года заветные средние 1000 рублей по стране. Потому что так сказал президент.

Вопреки экономическим закономерностям командно-административная белорусская экономика имеет свою логику. В ней постоянно правит бал административный ресурс. Зарплату целесообразно и приятнее повысить в основном высокооплачиваемым категориям работников, в том числе руководителям предприятий, банков и высоким чиновникам. Если на предприятиях плохо с ростом производительности труда, надо сократить численность работающих, в том числе за счет «выдавливания» людей по истечении трудового контракта. Согласно информации Минтруда, безработица, как всегда, не увеличится. Чего ж удивляться врачам, учителям высокой квалификации, что они, работая на полторы ставки, никак не зарабатывают столько, сколько показывают в своих отчетах их отраслевые министры. Правильнее в этом отношении смотреть на так называемую медианную зарплату, которая получается существенно ниже среднемесячной и которую Белстат перестал подсчитывать. К примеру, среднемесячная зарплата в России, которая «славится» глубокой дифференциацией населения по доходам, оценивается не менее 600 долларов. А медианная – всего 22 тысячи российских рублей, или 366 долларов по курсу. Ведь по обе стороны именно от этой зарплаты равное количество российских тружеников, заканчивая олигархами.

Оценивая прогноз развития экономики Беларуси на 2018 год, который представило правительство, многие аналитики вновь стали искать в представленных цифрах логику. Верхняя вилка роста ВВП – 3,4%, производительности труда – 2,8%. Остальные 0,6% (3,4%–2,8%) роста ВВП должны быть получены за счет увеличения числа занятых в экономике. Откуда они возьмутся, если с 2011 года количество этих занятых упало на 351,5 тысячи человек и эта тенденция остается и в текущем году? Возможно, декрет №3 поможет? За счет каких факторов вдруг переломится тренд на падение инвестиций в основной капитал? По прогнозу они должны повысить ожидаемые в 2017 году на 6,8%. За последние годы ни один из прогнозов правительства по инвестициям не оправдался. Инфляцию, правда, Нацбанк и правительство скромно оставили в пределах, намеченных на текущий год (7%). Как с такими параметрами выйти на зарплату в 1500 рублей, вновь не разогрев печатный станок, остается загадкой. Надо правительству поднапрячься и сотворить очередное чудо. Ведь президент руководит по-сталински: сказал – сделали.

И будут посрамлены те экономисты, которые подходят к белорусской экономике со своими привычными мерками-расчетами. Ведь есть геометрия Лобачевского для искривленных поверхностей, где не работают каноны обычной геометрии. Есть искривление пространства в теории относительности Эйнштейна. В свое время первый секретарь ЦК КПСС Н.Хрущев (отправили в отставку в 1964 году) торжественно обещал, что нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме. А мы, молодые, слушали, открыв рты. По прикидкам коммунизм должен был наступить к 80-м годам прошлого века. Может, он и настал, но только для избранных…

ПАЛІТКУХНЯ

## Ілля ДАБРАТВОР:

# «Я маю права заявіць пра свае амбіцыі…»

*Пра намер балатавацца на пасаду старшыні Партыі БНФ індывідуальны прадпрымальнік, бацька пяцярых дзяцей абвясціў яшчэ ў лютым. Днямі ён распавёў “Народнай Волі” не толькі пра тое, як рыхтуецца да выбараў, але і пра некаторыя закулісныя моманты партыйнага жыцця.*

**– Ілля, вы ўжо, напэўна, ведаеце прозвішчы ўсіх, хто будзе змагацца за старшынства ў Партыі БНФ...**

– Пакуль са сродкаў масавай інфармацыі ведаю, што акрамя мяне вылучаецца Вольга Дамаскіна з Наваполацка. Называюцца і іншыя прозвішчы, але паколькі гэтыя людзі самі публічна яшчэ не аб’явілі пра свой намер, то я не хачу бы рабіць гэта за іх.

Цяперашняе кіраўніцтва партыі прапануе свайго кандыдата на пасаду старшыні. Аляксей Янукевіч абяцаў журналістам, што напярэдадні справаздачнага сходу аб’явіць імя таго, каго хацеў бы бачыць на пасадзе старшыні партыі. Я лічу, што гэта нармальна, бо варта захаваць нейкую пераемнасць, і таму ў выпадку маёй перамогі прапаную Аляксею Янукевічу альбо заняць месца намесніка, альбо выбраць іншую кіруючую пасаду.

**– Старшыня партыі – гэта вялікая адказнасць. Вы – бацька пяцярых дзяцей, у вас клопатаў у жыцці і так хапае. Навошта вам гэтая пасада?**

– Магу нагадаць, што падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў у мяне быў самы лепшы вынік сярод апазіцыі. І не ісці на пасаду старшыні партыі ў гэтым выпадку – ну гэта проста дзіўна! Я лічу, што шмат працаваў на карысць партыі, няблага адпрацаваў парламенцкія выбары. І маю права заявіць пра свае амбіцыі.

**– Не так даўно былі даволі гучныя скандалы, звязаныя з фінансаваннем БСДП “Грамада”, якую ўзначальвае Ірына Вештард. У некаторых можа скласціся ўражанне, што пасада старшыні апазіцыйнай партыі – проста добры бізнес...**

– Я добра ведаю: гэта не тая пасада, якая прынясе нейкі прыбытак. Уладкаваўшыся на завод, будзеш зарабляць больш, чым старшыня любой апазіцыйнай структуры. Таму старшынства – гэта не бізнес.

А на пасаду старшыні партыі прэтэндую, бо хачу быць сябрам уплывовай і масавай партыі. Думаю, што змагу вывесці Партыю БНФ на новы ўзровень.

Частка маіх паплечнікаў лічыць, што, можа быць, ранавата мне яшчэ балатавацца на гэтую пасаду. Але я лічу, што маладосць – не самы вялікі недахоп для палітыка.

**– А з чым вы пойдзеце на з’езд? Маеце праграму далейшага рэфармавання ці развіцця партыі?**

– Так, праграма ёсць. Магу агучыць некалькі пазіцый.

Па-першае, я выступаю за канструктыўны дыялог, у тым ліку і з уладай. Бо некаторыя пытанні, якія тычацца развіцця краіны, наша партыя проста не можа вырашыць самастойна.

Па-другое, я спадзяюся распачаць працэс аб’яднання дзвюх партый, на якія ў свой час раскалоўся Беларускі Народны Фронт. Я разумею, што гэта будзе няпроста і імгненна гэта зрабіць, канешне, немагчыма. Гэта доўгі працэс, які вымагае цярпення і разумення з абодвух бакоў. Але сёння я лічу важным хаця б гаварыць пра гэта. У бліжэйшы час хачу правесці перамовы



на гэты конт з Зянонам Станіслававічам Пазьняком.

Па-трэцяе, на мой погляд, прайшоў той час, калі можна было канфліктаваць і раскідвацца актывістамі, выбітнымі асобамі. Трэба іх збіраць і аб’ядноўваць. Я хацеў бы, каб у Партыю БНФ вярнуліся такія знакавыя асобы, як Вінцук Вячорка, Вацлаў Арэшка, Лявон Баршчэўскі і іншыя, хто сышоў з партыі па розных прычынах. Добра было б, каб яны вярнуліся і працягвалі працаваць на карысць бацькаўшчыны і беларушчыны. Прычым на любых умовах. Трэба шукаць, што нас можа аб’яднаць.

Па-чацвёртае, я хацеў бы падтрымаць ідэю, з якой вылучаўся той жа Аляксей Янукевіч, – пашырыць партыю, зрабіць яе сапраўды масавай.

**– Але ў Янукевіча гэта не атрымалася. Некаторыя лічаць, што ягонае кіраўніцтва партыяй – гэта поўны правал...**

– Я не зусім згодны з такім меркаваннем. У партыю прыйшло шмат моладзі – у нас вельмі добра працуе маладзёжнае крыло, раней такога не было. Гэта плюс.

Яшчэ Янукевіч, у адрозненне ад некаторых беларускіх палітыкаў, прызнае свае памылкі.

Мінус ягонага кіраўніцтва – адсутнасць пэўнай стратэгіі, недастатковая ўвага да таго, што робіцца ў рэгіёнах. Бо там любы, хто з’яўляецца сябрам апазіцыйнай партыі і праяўляе актыўнасць, можа вельмі лёгка страціць працу. І працаўладкавацца потым надзвычай складана. Я сам пэўны час быў беспрацоўны і таму ведаю, пра што гавару. Цяжка бывае ў жыцці без падтрымкі. Таму лічу, што за сваіх людзей трэба змагацца, адстойваць іх інтарэсы.

**– Вы казалі, што збіраецеся ісці на выбары камандай. Ці шмат хто падтрымлівае вас?**

– Я, безумоўна, раюся з нашымі партыйцамі, а таксама прыслухоўваюся да парад сваіх сяброў, якія не з’яўляюцца сябрамі Партыі БНФ.

Гатовы слова ў слова паўтарыць тое, што казаў тады, калі ўпершыню агучыў свой намер спаборнічаць за крэсла старшыні партыі. Я не буду займацца ніякімі кулуарнымі гульнямі, не збіраюся ездзіць па рэгіёнах і дамаўляцца, каб за мяне прагаласавалі, не буду нікога ўгаворваць, купляць галасы, праводзіць сваіх дэлегатаў. Я за поўную празрыстасць ва ўсім, што тычыцца дзейнасці партыі і выбараў старшыні.

**– Ці гатовы вы да пройгрышу?**

– Я з тых, хто можа дастойна прыняць параз. І не збіраюся ляпаць дзвярыма, калі мяне не абяруць старшынёй. Я ў любым выпадку буду працаваць на карысць партыі.

**– Як ставіцеся да таго, што партыю можа ўзначаліць жанчына? Ці будзеце вы здольны ёй падпарадкоўвацца?**

– Канешне. Нават магу да яе намеснікам пайсці! І буду працаваць і падпарадкоўвацца. Галоўнае, каб будучы старшыня партыі быў добрым арганізатарам і здолеў аб’яднаць людзей.

**– Ілля, Партыя БНФ ужо даўно заявіла, што будзе браць удзел у выбарчай кампаніі. Вы пойдзеце?**

– Так. Абавязкова!

**Марына КОКТЫШ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Калі будуць судзіць аўтараў Regnum?

Як вядома, трох аўтараў расійскага інтэрнэт-партала Regnum: беларусаў **Сяргея Шыпценку, Юрыя Паўлаўца і Дзмітрыя Алімкіна** – беларускія праваахоўнікі затрымалі яшчэ напрыканцы мінулага года. Супраць іх была заведзена крымінальная справа па ч.3 арт.130 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – “распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці, здзейсненае групай асоб”. Ім пагражае ад 5 да 12 гадоў пазбаўлення волі. Таксама падчас следства было ўстаноўлена дачыненне да супрацьпраўнай дзейнасці па прыкметах злачынства, прадугледжанага дадзеным артыкулам, шэф-рэдактара аналітычнай службы Regnum **Юрыя Баранчыка**. Ён – грамадзянін Беларусі, але жыве ў Маскве, з 15 сакавіка Беларусь абвясціла яго ў вышук.

Чаму дагэтуль Юрый Баранчык не экстрадзіраваны ў Беларусь? Можа, ён ужо і не праходзіць па справе Regnum? Калі будзе суд над іншымі фігурантамі гэтай гучнай справы?

– Інфармацыя, якую падаваў Следчы камітэт, актуальна і сёння, – паведаміў прэс-сакратар Следчага камітэта Беларусі **Сяргей Кабаковіч**. – Раней на падставе сабраных матэрыялаў следчым была вынесена завочная пастанова ўжыць у дачыненні да Юрыя Баранчыка меру стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Ён быў абвешчаны ў вышук. І расійскія калегі працавалі ў гэтым напрамку, шукалі Баранчыка. Што зараз адбываецца ў Расіі, сказаць складана. Баранчык на ранейшаму знаходзіцца ў вышуку, нічога абвінавачання ў яго не здымаў.

Што тычыцца аўтараў Regnum Сяргея Шыпценкі, Юрыя Паўлаўца і Дзмітрыя Алімкіна, расследаванне крымінальнай справы працягваецца, мера стрымання ў дачыненні да іх не змянілася. Калі крымінальная справа будзе накіравана ў суд, СК паведаміць дадаткова.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

КУЛУАРЫ

# Чаму не адзначылі юбілей Мікалая Селешчука?



*У жніўні споўнілася б 70 гадоў беларускаму Сальвадору Далі – Мікалаю Селешчуку. У 1996 годзе ён загінуў падчас падарожжа ў Італію – патануў.*

*Чаму юбілей аднаго з самых паспяховых беларускіх мастакоў, лаўрэата Дзяржпрэміі прайшоў зусім незаўважна? Чаму не было выставы, прымеркаванай да юбілейнай даты? Чаму не выдадзены ўспаміны пра творцу, якога многія лічаць геніем?*

*Пра гэта “Народная Воля” запыталася ў старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы.*

– Мы робім тое, што ў нашых сілах, – *шчыра адказаў Сітніца*. – І на шчасце, і на вялікі жаль, у нас многа выбітных мастакоў. Нядаўна мы ў Маскве выдалі шыкоўнейшы альбом Віталя Цвіркі, бо наша дзяржава так і не выдала яго да 100-годдзя мастака. І калі дзяржава адмовілася нам дапамагчы, мы выдалі альбом за кошт Міжнароднай канфедэрацыі саюзаў мастакоў, якая цяпер, на жаль, разгромлена. Там, дарэчы, планаваў я выдаць і Селешчука...

Калі ўзнікае такая магчымасць, мы на выставах паказваем творы Мікалая Селешчука з нашых фондаў. І не толькі яго. Мы выстаўляем і **Сяргея Цімохава**, і **Фёдара Ястраба**, і іншых. Таму сказаць, што мы абсалютна забылі пра Селешчука, – гэта не так.

Іншая справа, што мы абмежаваны ў сваіх магчымасцях. Мяне сёння хвалююць і іншыя пытанні. Што будзе, напрыклад, са спадчынай **Мая Данцыга**? Дзе яе захоўваць? Я месяца паўтара таму звярнуўся ў Мінгарвыканкам, а сям’я мастака – у Міністэрства культуры. Мы прапанавалі ў будынку былога хлебазавода на Ракаўскай зрабіць сапраўдны гарадскі музей. Каб там былі працы і Кашкурэвіча, і Данцыга, і Селешчука, і Кішчанкі і ўсіх тых, каго трэба было б ушанаваць персанальнымі экспазіцыямі ў межах горада. Але пакуль адказу няма…

ТЫМ ЧАСАМ

# Дзе захоўваецца «Габелен стагоддзя» Аляксандра Кішчанкі?

*Ці не з’ела яго моль?*

“Габелен стагоддзя” быў вытканы ўручную з натуральнай воўны на працягу 1991–1995 гадоў у Барысаве на камбінаце прыкладнога мастацтва. Палатно мае ўнікальныя памеры: 19х14 метраў. Менавіта з-за вялікага памеру твор уключылі ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

За гэтую працу мастаку Аляксандру Кішчанку была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі, а само палатно Міністэрства культуры прызнала гісторыка-культурнай каштоўнасцю.

У 1997 годзе народны мастак Кішчанка памёр ад анкалагічнага захворвання. З тых часоў ягоны “Габелен стагоддзя” выстаўляўся



лічаныя разы. Зразумела, што памеры палатна не дазваляюць выстаўляць яго ў любой зале, але тым не менш “Народная Воля” пацікавілася, дзе знаходзіцца твор Кішчанкі сёння.

*“Знакаміты габелен знаходзіцца на нашым Барысаўскім камбінаце, ён абсалютна дагледжаны, –* гаворыць старшыня Саюза мастакоў Рыгор Сітніца. *– Апрацаваны адпаведнымі сродкамі ад молі і іншага. Але, безумоўна, шкада, што ляжыць!*

*У свой час планавалася на месцы цяперашняга кінатэатра “Беларусь” зрабіць гарадскі музей. І праект быў, і пад гэты габелен нават адмысловая зала была прадугледжана! Але музей так і не адбыўся. Дарэчы, каб быў у Мінску такі сапраўды гарадскі музей, там знайшлося б месца ўсім! Сёння, на вялікі жаль, у нас няма такога музея. Ёсць галерэі, але паглядзіце, якія цудоўныя гарадскія музеі за мяжой ёсць, некаторыя з іх вядомыя на ўвесь свет!*

*А ў нас культура ў бядотным стане...”*

**Вера ВІР.**

НУ І НУ!

# Скраў больш за 20 тысяч літраў паліва

Былы начальнік энергамеханічнага аддзела, які працаваў па сумяшчальніцтве пазаштатным начальнікам склада ГЗМ у адной з вайсковых часцей Гомельскай вобласці са студзеня 2013-га па кастрычнік 2016 года, выкраў 20.816 літраў дызельнага паліва і 412 літраў маторнага масла агульным коштам звыш 28 тысяч рублёў.

Народная Воля http://www.nv-online.info 25 ЖНІЎНЯ 2017 г.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Палкоўніку свеціць восем гадоў…



*5 верасня суд Заводскага раёна Мінска пачне разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да былога намесніка міністра па надзвычайных сітуацыях Беларусі Дзмітрыя Бегуна.*

Палкоўніка Бегуна абвінавачваюць у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры ад бізнесмена за ўвод у строй аб'екта з парушэннем патрабаванняў супрацьпажарнай бяспекі. Ён быў вызвалены ад пасады намесніка міністра па надзвычайных сітуацыях за правіны, што дыскрэдытуюць званне работніка органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях.

Пра тое, што чыноўнік трапіў у поле зроку праваахоўнікаў, распавёў А.Лукашэнка.

*«Хабар браў. На месцы ўзялі ўсіх. Чаго крыўдаваць на мяне? Усе аднолькавыя перад законам: і міністры, і намеснік міністра»*, – цытавала belta.by словы Лукашэнкі. – *Свеціць восем гадоў мінімум. Дапрацаваў да генеральскай пасады, каб у турме правесці час».*

Разам з Бегуном таксама будуць судзіць былога дырэктара ТАА «РМ Грифреставрация» – яго абвінавачваюць у падбухторванні да дачы хабару.

**Вера ВІР.**

ЗА РУЛЁМ

## За няўключаныя фары – штраф!

*З 25 жніўня да 5 верасня ДАІ праводзіць спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Увага – дзеці!».*

Згодна з Правіламі дарожнага руху, у дні правядзення такіх мерапрыемстваў кіроўцы абавязаны перасоўвацца ў светлы час сутак з уключаным блізкім святлом фар або дзённымі хадавымі агнямі. За невыкананне гэтага патрабавання прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу да 2 базавых велічыняў.

АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# Дык калі ў нас будзе Нацыянальны ўніверсітэт?

*Ёсць аргкамітэт, які ўжо не адзін год займаецца пытаннямі стварэння гэтай вельмі патрэбнай для краіны вышэйшай навучальнай установы. Складзены спіс выкладчыкаў, якія могуць альбо ўжо выкладаюць на беларускай мове розныя дысцыпліны. Аляксандр Лукашэнка падчас "Вялікай размовы з прэзідэнтам" нават агучыў прозвішчы будучых магчымых кіраўнікоў новага ўніверсітэта. Што чуваць пра вырашэнне праблемы на сённяшні дзень?*

Алена АНІСІМ:

## «Рэгістраваць будзем прыватны ўніверсітэт»

*Дэпутат, член камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў, намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім даўно прасоўвае ідэю стварэння беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы.*



– Тры крокі ўжо зроблены, – расказвае Алена Анісім. – Падрыхтаваны статут, ёсць распрацаваная канцэпцыя ўніверсітэта і зараз чакаем адказу на выдзяленне памяшкання для рэгістрацыі юрыдычнага адраса Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання.

**– Калі зможаце аб'явіць пра набор абітурыентаў?**

– Пасля рэгістрацыі пачынаецца зацвярджэнне праграм, спецыялізацый і г.д. Мы плануем, што ўніверсітэт пачне працаваць як навучальная ўстанова з 1 верасня 2018 года. Што тычыцца навучэнцаў, то хутчэй за ўсё на пачатку гэта будзе магістратура.

**– Фінансавыя пытанні вырашаны? Напрыклад, хто будзе аплачваць працу выкладчыкаў – дзяржава?**

– На жаль, мы бачым, што дзяржава нас не падтрымала і нічога ў гэтым плане рабіць не будзе, акрамя таго, што, магчыма, на базе ўніверсітэтаў могуць адкрыцца беларускамоўныя патокі. Але нас не зусім задавальняе той дух, які пануе ў дзяржаўных універсітэтах, мы лічым, што ўніверсітэт сёння павінен адпавядаць пэўным крытэрыям – быць сучаснай установай з акадэмічнымі свабодамі. Таму мы заснуўваем прыватную ўстанову – Нацыянальны ўніверсітэт з беларускамоўным навучаннем.

**– Калі прыватная, значыць, платная…**

– Так, але мы разлічваем і на спонсарскую дапамогу.

**– Рэгістравацца будзеце ў Беларусі?**

– Безумоўна, усе нашы высілкі накіраваны менавіта на тое, каб гэты ўніверсітэт працаваў у Беларусі.

Ігар МАРЗАЛЮК:

## «Трэба пачынаць з БДУ»

*Старшыню камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў, доктара гістарычных навук, выкладчыка Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Ігара Марзалюка Аляксандр Лукашэнка назваў "гатовым рэктарам Нацыянальнага ўніверсітэта". Марзалюк у свой час скончыў беларускамоўную школу, потым Магілёўскі педінстытут, ва ўніверсітэце свае лекцыі чытае па-беларуску.*



– Я займаюся гэтай ідэяй, мне было цікава даведацца, колькі выкладчыкаў, па якіх спецыяльнасцях могуць выкладаць свае прадметы па-беларуску, і дзякуючы старшыні ТБМ Алегу Трусаву гэтыя спісы я атрымаў, – *расказвае Ігар Марзалюк.* – І ведаеце: не так ужо ўсё дрэнна ў нас выглядае з беларускамоўным выкладаннем у вышэйшай школе.

**– Але ж спісы – гэта нават не палова працы па стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта…**

– Што тычыцца Нацыянальнага ўніверсітэта, то гэта праблема сістэмная. На мой погляд, самае важнае, што мы павінны сёння рабіць, – гэта пашыраць беларускамоўную кампетэнцыю выкладчыкаў усіх узроўняў, каб па-беларуску ўмелі выкладаць свае дысцыпліны і школьныя настаўнікі, і ўніверсітэцкія педагогі. Трэба разумець, што сітуацыя ў Беларусі ўсё таксама з адначасова дыскрымінаванай меншасці і мовай, што праблема мовы – гэта праблема не дыскрымінаванай меншасці, а праблема большасці, якая была дыскрымінавана ў моўным плане больш за 300 гадоў таму і ў выніку неспрыяльных умоў – спачатку паланізацыі, потым русіфікацыі – згубіла сваю родную мову і высокую культуру маўлення. Дэрусіфікацыяй і карэнізацыяй нам трэба займацца, улічваючы і тое, што многімі беларусамі руская мова не можа ўспрымацца як нешта чужароднае. І я гляджу на гэта з аптымізмам.

**– Вас не хвалюе тое, што не толькі беларускамоўных школ – класаў з беларускамоўным навучаннем не становіцца больш у краіне? Што ідэю па стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта, як кажа ваша калега Алена Анісім, дзяржава не падтрымала…**

– Я перакананы, што такія пытанні вырашаюцца становіча тады, калі ёсць запатрабаванне не на ўзроўні аднаго чалавека і нават тысячы альбо ста тысяч, а большасці грамадства. Калі надаецца такі імпульс, ён вырашае ўсё. Калісьці так было з іўрытам. І мы сёння павінны акуратна, ашчадна вяртаць родную мову. А мы хочам па-бальшавіцку, каб з 1 верасня ўсе школы сталі беларускамоўнымі. Але імгненна не будзе. Не можам мы сабе дазволіць такую рэч, як унутраную калатнечу. Трэба, каб самі дзеці, маладзёны хацелі беларушчыны.

**– А дзяржава нічога не мусіць рабіць?**

– Дзяржава шмат чаго робіць і будзе рабіць больш, каб беларуская мова, культура, традыцыі пашыраліся. Пагляздзіце, на Беларускім тэлебачанні з'яўляюцца беларускамоўныя праграмы… Дасягнута прынцыповая дамоўленасць міністэрстваў адукацыі Расіі і Беларусі аб стварэнні ў Новасібірску цэнтра па вывучэнні беларускай мовы і літаратуры. Але ж такіх цэнтраў павінна быць больш дома, у сваёй хаце. Мы павінны прызнаць, што было памылкай перавесці выкладанне геаграфіі і гісторыі Беларусі ў школах на рускую мову. Трэба вяртаць беларускамоўнае выкладанне гэтых прадметаў. Гэта будзе даваць моўную практыку.

Але я не веру, што нейкімі дырэктывамі людзей можна прымусіць вучыцца па-беларуску. Вы памятаеце рэакцыю грамадства, калі на пачатку дзевяностых усіх адначасова ўсё? Колькі было абурэння, непрымання. Таму сёння трэба больш мякка ўсё рабіць.

**– Стварыць Нацыянальны дзяржаўны ўніверсітэт – гэта зрабіць не мякка?**

– Я лічу, што ў пытанні беларускамоўнай вышэйшай школы не павінна быць валюнтарызму навыварат. Трэба пралічыць рэальную ёмістасць рынку і колькасць жадаючых. На мой погляд, лепш ва ўсіх прэстыжных універсітэтах краіны – можна пашыраць і ў наступным годзе – даць магчымасць студэнту выбіраць, на якой мове яму вучыцца. Але трэба прадумаваць, як гэтыя механізмы будуць функцыянаваць.

Нам патрэбны не проста беларускамоўны ўніверсітэт, а самы лепшы ўніверсітэт у Беларусі. Сёння я такі нацыянальны ўніверсітэт ведаю – гэта Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Трэба з яго і пачынаць, каб БДУ мог напоўніцу задавальняць патрэбу і беларускамоўнай, і рускамоўнай часткі насельніцтва атрымліваць вышэйшую адукацыю на той мове, на якой яны хочуць, незалежна ад спецыяльнасці.

***

Як бачым, па-рознаму глядзяць на праблему Алена Анісім і Ігар Марзалюк. Невядома, як збіраюцца вырашаць яе ў вышэйшых кабінетах улады. Пры такім падыходзе, адчуваецца, не хутка ў нас маладое пакаленне зможа атрымліваць вышэйшую адукацыю на роднай, беларускай мове.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Все там будем

Съездил я на «малую родину», в Гродно. Большой город. Я жил в нем, когда еще и трехсот тысяч жителей не было. Сейчас уже значительно больше.

Но если больше жителей в самом Гродно, то больше душ и на городских кладбищах. Так устроена жизнь, ничего не поделаешь. Люди рождаются, люди умирают, люди ходят друг к другу на кладбище.

Белорусы – народ по преимуществу верующий, потому и на Пасху (обе), и на Радуницу обязательно навещают кладбища, приводят могилы в порядок. А что потом, до конца года? На годовщины рождения и ухода в иной мир усопших – тоже приходят. И – хоть трава не расти.

Проблема в том, что она растет. Растет трава, растут кустарники. И чем старше кладбище, тем проблема эта ощутимее.

Говорите – «порядок»? Попробуйте в том же Гродно пройти между могил на старом кладбище по переулку Победы. Периодически там вырубали кустарники и деревья, так что сейчас сверху вроде бы ничего не мешает. Но проблема не только в деревьях. Могилы расположены так, что между ними пройти невозможно – ограждения мешают. А там, где оставалось хоть какое-то пространство, повсюду выросла трава в половину человеческого роста, и пробиться между ее стеблями почти невозможно. И та же ситуация на центральном городском кладбище, что по проспекту Космонавтов (хотя там и площадь больше). Понятно, что главные аллеи на этих кладбищах чистые, но на аллею ведь выходит десятая часть могил. А как быть с теми захоронениями, что у кладбищенского забора? Или с теми, что оказались внутри «секторов» – до них как добраться?

Но ведь кладбище – даже после того, как на нем перестали вести захоронения, – все равно находится у кого-то на балансе. У кого? У жилищно-коммунального хозяйства? И вы хотите уверить меня, что у ЖКХ нет денег, чтобы один раз в год полить всю землю химикатами, чтобы трава уж действительно не росла? Или раза три за лето выпустить туда же бригаду рабочих с серпами (коса не возьмет – размахнуться негде)? Простите, не поверю.

Жизнь – сложная. Моя бабушка и тетя похоронены в Литве, на кладбище в Друскининкае – том старом кладбище, которое выходит оградой к озеру. Там просторно. И на католической, и на православной частях.

Собственно говоря, кладбищенская ситуация – как в целом по стране. Вроде бы чисто, а жить – неудобно. Негде жить. Руководство руководствуется какими-то собственными представлениями о том, сколько нужно живым пространства для жизни, сколько – для смерти, каков должен быть объем потребляемой нами горячей и холодной воды, сколько трусов должны покупать в течение года граждане Беларуси. Рисует само себе идеальную картину, а когда выясняется, что жить в этом нарисованном чиновниками мире невозможно, обиженно советует:

– Живите по средствам.

Я даже представляю себе, как, прочитав эту мою колонку, какой-нибудь чиновник из ЖКХ обидится и пришлет письмо с советом:

– Похудейте – и будете свободно протискиваться между кустами и оградами к могилам родственников!

Конечно, если бы это оставалось единственной нашей заботой – мы были бы счастливейшим народом на земле. Но у нас хватает и других забот. Именно поэтому никто из нас не может проводить дни и ночи на кладбищах, очищая пространство вокруг могил, вывозя мусор и отгоняя бомжей и бродячих собак. Мы все еще верим, что кто-то сделает это – из тех, кому вроде бы положено: или государство, или церковь, или пионеры-тимуровцы. Или мы дослужимся до того, что нам отведут участок побольше на горке повыше, где земля посуше. А если нет – то и за то мы должны сказать власти спасибо, в ноженьки должны поклониться: могут ведь и вовсе вывезти нас на свалку вместе с могилами, если земля, на которой мы живем или в которой похоронены, понадобится какому-нибудь катарскому инвестору.

Власть – она ведь не понимает, что «все там будем». Ей кажется: вот сейчас всунем между оградками еще одну могилку на престижном участке, построим пару-тройку зданий посреди городского парка – и трава не расти!

Будет расти трава. Михаил Мясникович, чья карьера начиналась с поста главного инженера спецхозяйства (правительственного кладбища в том числе), подтвердить может: вырастет трава в любом случае. А к могиле будет не подойти. И гостиницу, построенную в городском столичном парке, не запустят в работу, потому что строили вопреки логике и законам, по чиновничьей прихоти. И, конечно, будет повсюду чистота – но жить будет невозможно. Как на кладбище.

СІТУАЦЫЯ

## Кампенсацыю на карысць Пціцкіных выплацяць за кошт дзяржказны

*Днямі праваабаронцы паведамілі аб тым, што Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі звярнулася за тлумачэннямі ў суд Заводскага раёна Мінска наконт выканання судовага рашэння па пытанні аб кампенсацыі маральнай і матэрыяльнай шкоды ў справе сям'і Ігара Пціцкіна, які загінуў у СІЗА №1. Прычынай для звароту паслужыла тая акалічнасць, што міністэрства не атрымлівае адпаведнага бюджэтнага фінансавання. А сума, якую трэба выплаціць, немалая.*

Нагадаем: суд Заводскага раёна 23 сакавіка пастанавіў спагнаць з Міністэрства ўнутраных спраў 30 тысяч рублёў маральнай і яшчэ 6 тысяч рублёў матэрыяльнай кампенсацыі на карысць маці і сястры загінуўшага ў СІЗА **Ігара Пціцкіна**.

Суд Заводскага раёна 22 жніўня паспрабаваў яшчэ раз разабрацца: хто і якім чынам павінен выплаціць гэту кампенсацыю.

Прадстаўнік МУС **Кірыл Міліцын** на судзе падтрымаў пазіцыю міністэрства, спасылаючыся на тэхнічныя складанасці, якія ўзнікаюць пры выкананні рашэння суда. Паводле інфармацыі



tut.by, прадстаўнік МУС патлумачыў, што ведамства ні ў якім разе не ўхіляецца ад выплаты. Проста гэтае пытанне «завісла» ў Міністэрстве фінансаў, якое распараджаецца казной.

Юрыст праваабарончага цэнтра "Вясна" **Павел Сапелка**, які прысутнічаў на судовым пасяджэнні, мяркуе, што пры вынясенні судом ранейшага рашэння аб прызначэнні кампенсацыі была выкарыстана не зусім дакладная норма закона:

*"На той час, калі Жанна Пціцкіна звярталася ў суд з іскам, то падставай для спагнання кампенсацыі быў указаны артыкул 938 Грамадзянскага кодэкса, які прадугледжвае адказнасць за шкоду, прычыненую супрацоўнікамі дзяржаўных органаў. Суд жа вынес рашэнне на падставе другой нормы закона, якая прадугледжвае адказнасць наймальніка за дзеянні свайго работніка.*

*Мне падаецца, што вось у гэтым і ёсць корань праблемы з выкананнем судовага рашэння, паколькі пры такім парадку тэарэтычна Міністэрства фінансаў не павінна фінансаваць выкананне падобнага рашэння. Але, спадзяюся, што суд нейк выправіць становішча, і Жанна Пціцкіна нарэшце атрымае сваю кампенсацыю, якой яна чакае ўжо пяць месяцаў".*

Пасля перапынку суд пастанавіў, што трэба пазначыць у дакументах больш дакладную фармулёўку аб выплаце кампенсацыі. А менавіта: *"спагнаць з МУС на карысць Пціцкіных за кошт казны Рэспублікі Беларусь"*.

Нагадаем: жыхар Мінска Ігар Пціцкін памёр 4 жніўня 2013 года праз некалькі дзён адсідкі на Валадарцы, дзе адбываў 3 месяцы арышту за тое, што кіраваў аўтамабілем, не маючы правоў. У медчасці ўстановы да яго былі ўжыты *«меры фізічнага стрымлівання ў выглядзе фіксацыі рамянямі»*. У такім стане Пціцкін знаходзіўся больш за 20 гадзін да моманту смерці. Адміністрацыя ізалятара заявіла, што малады чалавек памёр ад сардэчнай хваробы, але сваякі выявілі на целе сінякі і сляды пашкоджанняў.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

Дар'я ДОМРАЧАВА:

## «Усміхайцеся!»

*Шматразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава выклала ў "Інстаграме" фотаздымак, зроблены разам з мужам Уле Бьёрндаленам пасля сумеснай трэніроўкі.*

*"Пасля цяжкай трэніроўкі важна знайсці яшчэ трохі сіл, каб усміхнуцца! Усміхайцеся!"* – падпісала яна здымак.

Фота сабрала шмат пазітыўных водгукаў ад прыхільнікаў вядомых спартсменаў.

А напярэдадні Дар'я прарэкламавала ў "Інстаграме" сваю інтэрнэт-краму і прадэманстравала мадэль восеньскага спартыўнага камбінезона, які хутка можна будзе набыць на сайце shop.daryadomracheva.by.

Сёння ў інтэрнэт-краме алімпійскай чэмпіёнкі можна набыць футболкі, заплечнікі, павязкі, шапкі, бафы і многае іншае.

*"Заняткі спортам становяцца значна прыемней, калі на табе апранута нешта, у чым ты адчуваеш сябе ўпэўнена"*, – гаворыць спартсменка.

Дарэчы, уся прадукцыя, прадстаўленая ў краме Домрачавай, зроблена ў Беларусі – гэта было ўмовай Дар'і.




*"Сёння можна купіць абсалютна ўсё*, – гаворыць яна. – *Часы, калі футболкі каштавалі казачных грошай, на шчасце, сышлі ў мінулае. Мне было важна не проста выявіць сябе, але і зрабіць усё дома. Паказаць свету ды і нам самім, што пры належным падыходзе і ўвазе да дэталяў у Беларусі можна ствараць добрыя якасныя рэчы з прынтамі, якія не саступаюць іншым пры мыцці…"*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

